Год VII. Лістапад № 12 (85).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 12:



**ГРАМАДЗЯНЕ! Пашырайце „Шлях Моладзі“. Прысылайце адрасы сваіх знаёмых дзеля высылкі їм пробных нумароў!**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода—1 зл., на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Лістапад 1935 г. | № 12 (85). |
| --- | --- | --- |

## NA BIEŁARUSKICH MOHIŁKACH.

Sumna ŭkruħ, tolki liść šalaścić,
Vietram ħnany ŭ niaznanuju dal.
Płot padħniŭšy z laħka zatraščyć
Pad naporam viatroŭ krepkich chwal.

Les kryžoŭ. Nad kryžami u ćmie
Kosy płačak-biarozak visiać, —
Kapli z dreŭ, kali viecier kranie,
Na maħiły, jak ślozy, laciać.

A dalej, miž uzħorkaŭ krutych,
Zrosšy mochom kaplica staić, —
Z daŭnych dzion staražyć jana tych,
Chto ŭ abniaćciach ziamli krepka śpić.

Hdzie-nia-ħdzie, pamiž dreŭ i kustoŭ,
Storaž-kamień z maħiły ħladzić,
Na im vyryta niekalki słoŭ, —
Chto i skul u maħile toj śpić.

Tut lažać zmaħary sumnych dzion,
Što na śviet u niavolu pryjšli,
Pryśpiašyła niadola im skon, —
I maŭkliva ŭ maħiły zyjšli.

O, ajčyna, tut dzieci tvaje,
Choć čužyja znaki na kryžoch,
Bura z vietram nad imi piaje,
Jak pamierli jany ŭ łancuħoch

Duch, što volnyja dumki pradzie,
Jany ŭ spadčynie kinuli nam,
Da ich mety jon nas pryviadzie
Nad Ajčynaj razħonie tuman.

Lavon Burałom.



Ад. Станкевіч. 

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## XI. Спробы будаваньня незалежнай Беларусі пасьля акту 25.III 1918 і яго значэньне.

### § 2. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

У меру таго, як у канцы 1918 г. нямецкая армія адыходзла дамоў і ачышчала беларускія землі, у сьлед за ей ішла армія бальшавіцкая. 1 студзеня 1919 г. бальшавікі абвесьцілі незалежнасьць Беларусі, як Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, зазначаючы адначасна, што Рада Бел. Нар. Рэсп. і ўрад яе ўважаюцца „без абароны закону" і за першыя два з паловай месяцы 1919 г. занялі бадай усю Беларусь і часьць Усходняй Літвы. У пачатку студзеня бальшавікі занялі Вільню. Літоўская Тарыба (Дзяржаўная Рада) пад націскам бальшавікоў, а так-жа і палякоў, у якіх руках тады фактычна Вільня ўжо была, места гэта пакінула. Беларусь і Літву бальшавікі злучылі ўрэшце ў вадну літоўска-беларускую (Літ-Бел) савецкую рэспубліку і стварылі для яе гэткага-ж назову ўрад. У красавіку месяцы 1919 г. бальшавікоў з Беларусі і Літвы пачалі выганяць палякі. 19 красавіка яны занялі Вільню і паволі пасоўваліся на ўсход Беларусі. Жадаючы мець прыхільнасьць для сябе беларускага народу, бальшавікі 1 жніўня таго-ж году ўзноў Беларусь абвесьцілі незалежнай савецкай рэспублікай. 8 жніўня палякі занялі Менск. Крыху менш як за год бальшавікі пачалі ўзноў наступленьне, якое скончылася мірам іх з палякамі ў Рызе 20 сакавіка 1921 г. Заходняя Беларусь асталася за Польшчай, а рэшта, за выняткам тэй часьці, якая апынулася ў Латвіі, адышла да Саветаў, дзе й сяньня яна знаходзіцца пад назовам: Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка[1]).

У склад Савецкай Беларусі сьпярша ўваходзіла толькі некалькі паветаў Меншчыны, а пасьля яе тэрыторыя была значна пашырана. Аднак і сяньня Сав. Беларусь не абымае ўсіх беларускіх этнаграфічных зямель, што знаходзяцца пад савецкай уладай. Дагэтуль туды ня ўлучаны землі з выразнай беларускай большасьцяй насельніцтва, як Гомельшчына, павет Красны Смаленшчыны і паветы Вітэбшчыны: Веліж,

1) Усе беларускія этнаграфічныя землі займаюць больш 300 тысяч кв. кілёмэтраў прастору. З гэтага каля 210 тыс. кв. клм. з 7 мільёнамі ўсяго насельніцтва належаць да Саветаў, 107 тыс. кв. клм з 3 мільёнамі насельніцтва — да Польшчы і 3,5 тыс. кв. клм. з 200 тыс. насельніцтва — да Латвіі. (Зборнік „Беларусь" бач. 4).

Усіх беларусаў налічаецца паводле беларускіх жаролаў больш 10 мільёнаў.

Нэвэль, Себеж. Ня ўлучаны, ведама, у граніцы Сав. Беларусі і самыя ўсходнія рубяжы беларускія з гарадамі: Новазыбкаў, Старадуб, Мглін, Ельня, Смаленск, Дарагабуж, Духаўшчына, Белы Тымчасам землі гэтыя, як гэта відаць з навуковых крыніц, належаць да беларускай этнографічнай тэрыторыі, хоць ужо з большай, як у іншых мясцох, дамешкай элемэнту расейскага.

Каб зашахаваць дзейнасьць і павагу Рады Бел. Нар. Рэспублікі, а так-жа каб мець на сваей старане беларускае насельніцтва падчас вайны Саветаў з Польшчай, Савецкая Беларусь на розных зьездах саветаў, у прэсе, на мітынгах часта была называнай незалежнай дзяржавай, незалежнай савецкай рэспублікай. Граніцы і сутнасьць гэнай незалежнасьці і адносіны Беларусі да Расеі спачатку ня былі адзначаны ніякім праўным дакумэнтам. А ўжо ў 1921 г. 16 студзеня робіцца і гэта ў умове між Беларусяй і Расеяй. У гэнай умове падкрэсьліваецца фэдэрацыйная лучнасьць між абедзьвемі дзяржавамі, азначаецца, што належа да компэтэнцыі аднэй, а што да компэтэнцыі абедзьвюх і вырашаюцца спосабы ўзаемных адносінаў між беларускім і расейскім урадамі. Паводле гэнай умовы правы Беларусі, як дзяржавы, былі дужа скупыя і агранічваліся толькі да спраў асьветы і спраў сьцісла ўнутраных. Словам, Беларусь паводле гэнай умовы атрымала ад Расеі свайго роду аўтаномію.

Далейшым важнейшым актам у справе праўна-дзяржаўнага палажэньня Беларусі зьяўляецца агульна-савецкая констытуцыя з 6 ліпня 1923 г., у якой ёсьць між іншым разьдзел аб „сувэрэнных правох саюзных рэспублік“, а такжа пункт, які кажа, што „за кожнай Саюзнай Рэспублікай захоўваецца права вольнага выхаду з Саюзу“. У дакумэнце гэным тэорэтычна, як бачым, выразна падкрэсьліваецца сувэрэнітэт савецкіх саюзных рэспублік, але практычна рэспублікі гэныя астаюцца адзінкамі, маючымі ад Расеі свайго роду толькі самаўрад, ці аўтаномію. Гэткае ж фармальна-праўнае палажэньне савецкіх саюзных рэспублік, а ў іх ліку і Беларусі, трывае і сяньня.

Савецкая Беларусь хоць і дужа агранічаныя свае аўтаномныя правы выкарыстала аднак даволі шырока, маючы найбольш волі ў галіне асьветы і культуры; беларускі савецкі ўрад пакрыў Беларусь сеткай беларускіх школ, заложыў у Менску Беларускі Унівэрсытэт, Акадэмію Навук, вышэйшыя школы спэцыяльныя, а так-жа паддзержаваў беларускае пісьменства, беларускіх вучоных і іх працу і г. д. За якіх больш-менш 10 гадоў (1920—1930) Савецкая Беларусь у галіне беларускай асьветы, культуры і навукі зрабіла сапраўды вялікі поступ. Але поступ гэты беларускага нацыянальнага творства ўрэшце да таго перапужаў Маскву, што сяньня там бадай ўся беларуская народна-культурная і на-

вуковая праца спынена, а ўсе бадай беларускія культурныя і навуковыя сілы пазбаўлены свабоды і павыселены з граніц Беларусі. Сталася гэта ў 1929-30 г. Не пашчадзіла Масква нават павадыроў „Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады“, што з багаславенства Масквы[1]) шырока былі разгарнуўшы палітычную працу ў Беларусі пад Польшчай[2]), а пасьля паўцякалі ў БССР. Бальшавікі паняволілі іх і павысылалі за межы Беларусі ў 1933 г. Ясна, увесь гэты вялікі паход на беларускую культуру і палітыку ёсьць праявам палітычнага цэнтралізму Масквы, якая ня хочучы і баючыся беларускай незалежнасьці, нішча усякія, хоць-бы й культурныя, праявы беларускага нацыянальнага жыцьця. Афіцыяльна аднак Масква гэта робіць пад плашчом камуністычнага прынцыпу, што культура ўсякая можа быць нацыянальнай толькі сваей формай, мовай, а зьместам пролетарская і камуністычная. І ад гэтай ідэовай прыкрыўкі камуністаў у барацьбе з Беларусяй яўная карысьць расейскаму нацыяналізму, як нацыяналізму пануючай нацыі і маючай больш выробленую і больш адпорную нацыянальную культуру. Сталін аб гэтым кажа: што камунізм імкнецца да таго, каб даць магчымасьць „нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у адну агульную культуру, з аднэй агульнай мовай“[3]). Хіба ж лёгка дагадацца, што ў Саветах гэткай „агульнай“ мовай можа быць толькі мова расейская.

Не аб чым іншым так-жа сьведча і „рэформа“ бальшавікамі беларускага правапісу ў 1933 г. Сутнасьць гэнай „рэформы“ ў тым, што яна псуе беларускую мову, прыбліжаючы яе да мовы расейскай, бо быццам нацыянал-дэмократызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных масаў, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і расейскай мовай і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі[1]). Тымчасам трэба ведаць, што развой усякай мовы ня ёсьць нечым штучным, але натуральным. Тварэньне ж мовы штучнай, пролетарскай і штучнае яе зьбліжэньне да мовы расейскай,—гэта ясна гаворa аб праўдзівых мэтах такой работы.

1) „Грамада“ (1926-27) была масавай арганізацыяй нацыянальна-вызваленчага руху на Зах. Беларусі, але яна ніколі не магла прэтэндаваць на ролю гегемона ў гэтым руху таму, што гегемонам нацыянальна-вызваленчага руху, як і ўсяго рэвалюцыйнага руху на Зах. Беларусі, была і ёсьць выключна КПЗБ“. (Зап. Бел. Акад. Навук, 1934, № 3, бач. 176—177).

2) Ня трэба зьмешваць Беларускай Сацыялістычнай Грамады з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой. Першая працавала прад вайной і ў пачатку расейскай рэвалюцыі і трымалася нацыянальнага прынцыпу, а другая, хоць з прынцыпам нацыянальнасьці сусім ня рвала, але супольнага з ім мела нямнога, хілячыся ў бок камунізму.

3) „Полымя Рэвалюцыі“ кн. 1, 1934, бач. 137.

4) Правапіс беларускай мовы, Менск 1934, бач. 3.

Словам, цяпер у Саветах быццам у чэсьць Маркса, а фактычна ў чэсьць Расеі, камуністы намагаюцца зьнішчыць розныя нацыянальнасьці, а ў іх ліку і нацыю беларускую. Да гэтага прычыняецца тварэньне беларуска-расейскай мяшанкі, замест беларускай мовы, вытраўліваньне ў пісьменстве і ў навуцы нацыянальнага элемэнту, а так-жа прымусовая колектывізацыя беларускіх сялянскіх гаспадарак. Прычыняецца ўрэшце да нішчэньня беларускай нацыі вытраўліваньне з грамадзкага і прыватнага жыцьця агулам усякага ідэалістычнага элемэнту і замнога ўдзяляньня месца ўсякага роду нэгацыі. І так, замест пазытыўна-творчай рэлігіі—сілай заводзіцца там ваюючая бязбожнасьць, узьведзеная да павагі догмату, замест сям'і, як аснаўной грамадзка-творчай ячэйкі— расьцярушаныя, пазбаўленыя дзяржавай волі, адзінкі і ўрэшце замест культурна-нацыянальнага і самастойнага дзяржаўнага ідэалу, апёртага на свабодзе—прымусовы матэрыялізм і дыктатура кучкі інтэлігенцкага пролетарыяту над мільённымі масамі народу. Аднак, ня гледзячы на гэта ўсё, жывы народны арганізм наперакор правом жыцьця зьнішчыць, трэба верыць, ня ўдасца. Наадварот, барацьба з бел. нацыяй, якая цяпер так шырока і жорстка вядзецца ў Сав. Беларусі, нацыю гэту павінна толькі больш украпіць і скрысталізаваць.

Канчаючы ўрэшце, трэба адцеміць, што тая Беларусь, якая збудавалася ў Саветах, гэта больш-менш тое самае, чаго 50—60 гадоў таму дабіваліся беларускія народавольцы гоманцы. Бальшавікі тут свайго арыгінальнага ўлажылі нямнога, Значэньне аднак існаваньня Сав. Беларусі—значнае. Факт беларускай савецкай сацыялістычнай рэспублікі, з асобным аўтономным ўрадам і з дзяржаўнай формай жыцьця— гэта вялікі і сусім канкрэтны этап да поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларускага Народу.

(*Заканчэньне гэтай працы будзе ў наступным нумары*).

## Варонка ў вязьніцы

Я знаю старонку,
Дзе сіваваронку
Родныя сястрыцы
Дзяржаць у вязьніцы.

Ўздыхае нябога:
„Цярніста дарога
Да шчасьця, да долі,
Да сьветлае волі".

О, сёстры — варонкі
Пакутнай старонкі!
Жывеце у згодзе:
Нядоля адойдзе:

І зьнікнуць туманы,
Пагояцца раны,
Зазьяе дзень гожы,
Паявяцца рожы.

Што толку у здрадзе —
Ды ў злосным паглядзе,
У вечнай трывозе
На вашым парозе?

Пазнайцеся ў шкодзе,
Жывеце у згодзе:
Бо згода будуе,
Нязгода руйнуе.

**А. Жук.**

## Z MATYVAŬ VOSIENI

* * *

Apadajuć vasieńnija listy...
Chmary sumam tvar nieba tumaniać...
Što minuła — prajšło i nia ŭstanie...
Apadajuć pažoŭkłyja listy...

Viecier rviecca... Niamy i pusty
Staić les... Sumna hnucca kaliny...
Jhraje viecier miž čornych halinaŭ...
Apadajuć vasieńnija listy...

A. Biarozka.

* * *

Niadaŭna, — zdajecca učora, —
Stajali u bieli sady
I ŭ zvonkim pryvolli prastoraŭ
Viali pieraklički kusty.

Karotkuju nočku biaz źmieny
Piajaŭ da zary sałaviej,
I radaści śvietłaj pramieńni
Hareli u vočach ludziej.

A siońnia — cichaja zaduma
Nad losam puściejučych niŭ,
I chvali markoty i sumu,
Pačali svoj žoŭty pryliŭ.

Pływuć da viaskovych vakolic,
Pływuć jany nočču i dniom,
I cichaj źniamohaju pojuć
Usio, što zaviem my žyćciom.

Byvajuć tumannyja ranki
I rosy jarčej sierabra,
I časta tužliva la hanku
Sumuje z viatrami viarba.

Dzień chmurny... To śvietła-ściudziony
I sonca nia časta vidać,
Adny chvarbavanyja klony
Tak pyšny! Jak śviečki harać.

A viečaram cicha i ciomna.
Uvieś niebaschił poŭny zor.
Zdajecca niamym i tajomnym
Zasnuŭšych vakolic prastor.

I miesiac byvaje na niebie,
I jasna tak nočču, jak dniom,
I mroi paŭzuć biez patreby,
I cień adžyvaje kruhom.

M. Mašara.

## R e f l e k s y i

Dzieś stuch ahońčyk, što milhacieŭsia u ciemry hustoj...
I raspačlivaja ciš razlahłasia, jak ciemra načnaja.
Stała markotna na sercy — by poznaj vasieńniaj paroju,
Kali daždžy barabaniać i viecier, jak voŭk zavyvaje.

Zorka na niebie patuchła, jak śviečka pa ščyraj malitvie.
Dzieś adzinokaje skrypki zarvalisia vodhuki płaču;
Ścich tam, skanaŭ čałaviek, što za volu zmahaŭsia u bitvie.
Dzieści skanała dzicia — abarvałasia dola žabrača.

Mabyć iznoŭ zamilhaje ahońčyk u ciemry načnoj...
Z vodhukaŭ chvackaje pieśni razyjdziecca ciša niamaja;
Rynie ŭ jaskravy pachod maładoje žyćcio, jak viasnoj;
Skrypka viasioły nastroj na abšary hłuchim zaihraje...

Mabyć zaśviecicca zorka z pad chmar ałavianych i sumnych...
Kinie arużża i bratam padyjdzie, chto ŭčora zmahaŭsia.
Šmat abyčajaŭ čas źmienić i kodeks zakonaŭ razumnych;
Duch čałavieka nia zhinie, kali dla idei addaŭsia.

**J. Vilkoŭščyk.**

* * *

Восень ужо - жоўкнуць лісты,
Сохне трава, сохнуць кусты
Блекне усё...
Гоман заціх, змоўк у гаі,
Змоўкла ужо песьня жняі,—
Мрэ ўсё жыцьцё...
Восень ужо. .—глуха ўвакруг,
Сум на палёх, сумны і луг
Сэрцу нейк жаль...

Толькі парой, сеючы чар
Міла зірне, гляне з-за хмар
Сонца крышталь...
Восень ужо... — холад ідзе,
Вецер злуе, сьвішча, гудзе,
Сыплюць дажджы...
Дні карацеюць што раз...
Ах, які сумны стаў час!
Шчасьця ўсё-ж жджы...

**А. Мілюць.**

---

* * *

Неяк сумна зрабілася на сэрцы. Але чаго? Можа хто пакрыўдзіў, можа хто вырваў з сэрца любоў да Бацькаўшчыны. О не! Гэтага апошняга ніхто не патрапіць зрабіць. Я моцны воляй, і целам і душой, ганаруся сваім сярмяжным беларускім народам. Дык ад чаго-ж сум, дзе радасьць? Радасьць прабегла, як маланка, а сум няклікаиы, нежаданы надыйшоў. Эх, радасьць ты мілая, чаму так скора ўцякла... Чаму ня бачу ўжо ніўкі прыгожае, красак рознакалёрных на сенакосе, шустрых жнеяк-дзяўчат ля постаці жыта, адважных касцоў з іх громкімі песьнямі.

Птушкі адляцелі ўжо ў вырай і ня чуваць іхняга шчэбету, іхніх песень вясёлых. Усюды сум. Поле апусьцела і сьледу ня відаць таго хараства, што было. Кусты голыя. Вузенькія, зжаўцелыя межы густа перарэзваюць ськівы загоранай зямлі. У лесе і садох вецер завывае, падыймае процьму зжаўцелага лісьця і нясе далёка і высока. Пасьля вернецца, махне вярхоўкамі дрэў, заламоша іх галінкамі, якія здаецца аж плачуць... І дзеля гэтага сумна...

**Антось Чаромхін.**

# Зямля, Сьвятло і Беларусь...

*(Уражаньні в вёскі).*

3)

**Шкленск — Хадзілоні — Стары Двор — Забалацьце — Вільня.**

Правандраваўшы колькі дзён у Ваўкавыскім, Горадзенскім і часткава Шчучынскім паветах, наслухаўшыся сялянскіх бедаў, кіраваўся я да шашы Вільня—Горадня каля Шкленску, каб тут сесьці на аўтабус і вярнуцца ў Вільню.

Была гадзіна 6-я нараніцы, калі я пакідаў прыгожы, сярод лесу, над чыстай рэчкай, хутар Таранькаў, да якога трапіў прыпадкова і то якраз на вясельле. Людзі тут былі мне зусім незнаёмыя, але гасьцінныя, дык прынялі мяне, непазваляючы йсьці далей і нават запрасілі на вясельле. Быў я ім за гэта дужа ўдзячны, бо ўжо вечарэла і надыходзіла грозная бура з маланкай, громам і пярунамі. Гаспадары хутару, іх дзеці, а так-жа ўсе прысутныя на вясельлі—людзі сьветлыя, ды сьведамыя і стойкія беларусы, як і ў іншых куткох Горадзеншчыны. Дык сапраўды прыемна было тут пабываць; тым больш, што быў тут так-жа малады беларускі паэт Васілёк. Не забуду ніколі нашых бяседаў аб Беларусі і тых прыгожых дзявоцкіх вясёлых і сумных беларускіх песьняў, якія ажыўлялі і цешылі душу, падсказваючы: глядзі — Беларусь жыве, Беларусь расьце і расьцьвітае... Яна ніколі не загіне, усё пераможа і жыць будзе вечна...

Перадумваючы апошнія свае ўражаньні, выходзіў я ўжо з вялікага і прыгожага лесу, які абкружаў хутар Таранькаў і ў якім учора блудзіў я больш як дзьве гадзіны. Вясьнянае сонца што-раз мацней прыгравала. Раса на траве і на дрэвах у сонечных праменьнях выглядала як пэрлы, якія лёганькі ветрык далікатна страсаў на зямельку. Дзесьці далёка кукавала зязюля і прыпомніла мне дзіцячыя гады, калі прасіў яе, каб сказала, колькі гадоў жыць буду. І так неяк хацелася яе запытаць: „Зязюля, зязюля, закуй, за колькі год Беларусь будзе незалежнай?“ Розум аднак адганяе гэту думку, а прад вачыма бялее шаша. Зараз-жа і вёска Шкленск. Ня ўсьпеў я па ёй разгледзіцца, як з шумам праляцеў і зараз затрымаўся аўтабус з надпісам „Grodno—Wilno“. Усе мясцы ў ім былі заняты, дык прымошчваюся каля шофэра і праз гадзіну апыняюся ўжо ў м ку Астрыне. Тут ёсьць знаёмы падпішчык „Шляху Моладзі“ хочацца яго адведаць. Дык пытаюся на рынку ў жыдоўкі, — ці далёка жыве такі і такі чалавек.

— Недалёка — кажа — але ў іх сяньня вясельле дык яшчэ пэўна сьпяць.

Што-ж рабіць — думаю — і ўрэшце кідаю свой намер, бо ня хочацца трывожыць людзей, і зараз, тым самым аўтабусам, праз Новы Двор еду ў Хадзілоні, дзе высядаю і йду

ў Стары Двор, адведаць магілку беларускае паэткі-рэвалюцыянэркі Цёткі.

Ад Хадзілоняў трахтам: Сабакінцы—Васілішкі, да Старога Двара 6 кілямэтраў. Дарога шырокая высаджаная дрэвамі, побач разлягаліся каласістыя нівы збожжа, якія лёгка хваляваў ветрык і залаціла сонца. Час-ад-часу міналі мяне сялянскія хурманкі то з мяшэчкамі збожжа, то з парасятамі; часамі з цялём, або кормным клустым парсюком. Усе яны ехалі ў Васілішкі на кірмаш.

Адыйшоўшы пару кілямэтраў ад Хадзілоняў, спатыкаю пры дарозе грамадку сялян, якія адраблялі „шарварак". Пытаюся ў іх, ці добра йду ў Стары Двор. Пачынаецца гутарка, з якой даведваюся, што людзі гэтыя і ў вочы ня бачылі беларускага друкаванага слова. Дык апарожніваю сваю торбу з рэшты кніжак і газэт і памаленьку сунуся далей.

Стары Двор гэта фальварак бацькоў Цёткі, цяпер падзелены на 2 ці на 3 часьці, апушчаны, хоць краявід надае яму даволі прыгожы выгляд. Заходжу тут прадусім да сястры Цёткі, грам. Сапоцьчыхі, з якой пасьля кароткага адпачынку йдзём на магілку паэткі.

Магілка Цёткі знаходзіцца ў цэнтры Старога Двара, на вялікім пустым і нявысокім прыгорку, пры трахце Сабакінцы—Васілішкі. Над ёй стаіць стары, паросшы мохам дзеравяны крыж, бяз ніякай адзнакі і бяз надпісу. Наўкруга магілкі густа рос і расьцьвітаў чырвоны дзікі мак, якога колер сымбалічна гармонізаваўся з рэвалюцыйнай дзейнасьцю Цёткі. Прастата магілкі, яе бязіменнасьць, дзеравяны амшэлы крыж, чырвоны мак ды йшчэ недалёка росшая адзінокая рабіна, так неяк дзіўна дзеілі, што горла нехаця сьціскалася, а ў вочы пёрла сьлёзы. Бо сапраўды немагчыма, каб магілка беларускай паэткі, першай беларускі, якая дала прыклад беларускім жанчынам, як трэба працаваць для адраджэньня Беларусі, была ў такім занядбаньні. Праўда, грам. Сапоцьчыха гаворыць, што гэта ўсё дачасу толькі і што радня яе мае Цётцы паставіць прыгожы помнік. Мне аднак здаецца, што справа ўпарадкаваньня магілкі Цёткі ня ёсьць толькі справай радні паэткі, але агульна-беларускай, грамадзкай. І дзеля таго трэба, каб у 20-я ўгодкі сьмерці Цёткі, якія прыпадаюць у 1936 г. магілка яе мела належны выгляд.

Пад вечар гэтага самага дня пакінуў я Стары Двор і йзноў апынуўся ў аўтабусе на шашы Горадня — Вільня і хутка даяжджаў да вёскі Забалацьце. Тут аўтабус крыху затрымаўся і да нас села маладая інтэлігэнтная дзяўчына, здаецца вучыцелька. Адводзіў яе нейкі вясковы, даволі чыста апрануты хлапец. Гавораць між сабой папольску. На разьвітаньне дзяўчына кажа да хлапца:

— Proszę przyjeżdżać do nas, do Polski, zwiedzimy Kraków" і г. д.

— „Jakto, to tutaj nie Polska!?“ — зьдзіўлена пытаецца яе хлапец.

Дзяўчына нічога не адказвае, адно пасьмехваецца і пярэчачы круціць галавой, пацьвярджаючы гэтым словы хлапца.

Думаю, што дзяўчына гэта, ці лепш вучыцелька, асоба інтэлігэнтная, сказала так ня толькі на аснове географічнагістарычных дадзеных, але так жа і на падставе таго, што жывучы сярод нашага народу чуе і бачыць, што народ гэты шпаркім крокам ідзе да адраджэньня свайго, ня гледзячы на тое, што часта ня мае ён ня толькі кантакту з цэнтрам беларускага адраджэнскага руху, але ня бачыць нават свайго друкаванага слова. Ня гледзячы так-жа на тое, што многа хто беларускі адраджэнскі рух хоча затрымаць і часта дэмагогіяй і абманам здабывае дзеля сваей мэты часовы давер у народзе. Бязумоўна, многа йшчэ трэба працы, каб вёска актыўна і арганізавана змагалася за свае правы. Але трэба сьцьвердзіць, што слова Беларусь — Беларусь Незалежная, — ёсьць словам найпапулярнейшым сярод нашага народу. З гэткім уражаньнем вярнуўся я з вёскі ў Вільню.

*Канец.* Я. Н.

## 25-cilećcie śmierci Mikałaja Nikifaroŭskaha

Sioleta minuła ŭžo 25 hadoŭ, jak rasstaŭsia z hetym svietam, vydatny etnohraf Mikałaj Nikifaroŭski. Šanujučy jahonuju pamiać, nieadrečy chiba budzie paznajomić našych čytačoŭ, a mo' niekatorym tolki prypomnić, jahonuju pracu.

M. Nikifaroŭski radziŭsia ŭ 1845 h. u v. Vymny, Suraskaha pavietu. Baćki jahonyja byli biednyja, zajmalisia ziemlarobstvam; vučyli syna spačatku doma, a paśla ŭ Viciebsku ŭ duchoŭnaj škole, i ŭ Połacku—ŭ seminaryi. M. Nikifaroŭski ŭsio žyćcio byŭ nastaŭnikam, daskanalna znaŭ biełaruskija zvyčai, abrady, zababony i zapisvaŭ ich. Zapisvaŭ jon tak-ža biełaruskija narodnyja pieśni, kazki i prypieŭki. Spačatku pieradavaŭ jon ich da druku biełaruskamu etnohrafu Šejnu, a paśla vydavaŭ sam. I tak, u 1892 h. vyjšla jahonaja knižka „Дудар і музыка“, a dalej „Пасобнікі жыхара“ (1893), „Падданыя пасобнікі“ (1894), „Нарысы простанароднага жыцьця-быцьця ў Віцебскай Беларусі“ (1895), „Простанародныя прыметы і павер'і“ (1897) i inš. Pa śmierci jaho byŭ vydany zbornik sabranych im bieł. prypievak.

Praca M. Nikifaroŭskaha biazumoŭna vialikaja i cennaja, a sabranyja im etnohrafičnyja biełaruskija materjały majuć vialikuju vartaść dla biełaruskaj navuki.

Dziela ŭšanavańnia pamiaci M. Nikifaroŭskaha, a tak-ža z pryčyny 25-cilećcia śmierci jaho, Bieł. Instytut Hasp. i Kult. ŭ Vilni, 1-ha śniežnia ładzić u svaim pamieškańni Akademiju.

j.

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

Siarod vučnioŭskaje moładzi Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii sioleta paŭstała arhanizacyja biełaruskich skaŭtaŭ. Nazyvajecca jana: 10-taja Družyna Biełaruskich Skaŭtaŭ im. Fr. Bahuševiča ŭ Vilni. Praŭda, arhanizacyja heta nia jość samastojnaj biełaruskaj, ale aŭtanomnaj pry Sajuzie Polskich Skaŭtaŭ, padobna, jak takaja-ž arhanizacyja litoŭskich i rasiejskich skaŭtaŭ u Vilni. Jasna, što heta nia dokaz, što jana maje być dla biełaruskaj spravy škodnaj. Naadvarot, arhanizacyja heta pry dobraj pastanoŭcy moža pryniaści vialikija karyści i dać dobryja płady, bo-ž ideja skaŭtynhu: Boh i Baćkaŭščyna — sapraŭdy vysokaja.

Biełaruskija skaŭty dahetul, dziakujučy pierad usim hałoŭnamu arhanizataru ich K. Paŭlu, pracavali davoli enerhična i dobra papisalisia ŭ abozie ŭ Vałakumpii pad Vilniaj, a takža na źjeździe polskich skaŭtaŭ u Spale. Apráča hetaha biełaruskija skaŭty nie apošnimi źjaŭlajucca siarod 13-cioch družyn: — polskich, litoŭskaj i rasiejskaj — u Vilni, hodna reprezentujučy biełaruskuju moładź, dy zdabyvajučy ŭ spartovych skaŭckich ihrach 20.X.35 adno z pieršych čatyroch miesc.

Dziela taho adnak, kab Biełaruski Skaŭt dalej raźvivaŭsia i naležna pracavaŭ, kaniešna patrebnaja bližejšaja apieka i padtrymańnie šyrejšych kruhoŭ biełaruskaha hramadzianstva. Voś-ža treba, kab nieadkładna paŭstała Tavarystva ci Hurtok Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ, jakoje-b maralna apiekavałasia skaŭtami i zaniałosia-b źbirańniem matarjalnaha, hrašovaha padtrymańnia dla ich. Tavarystva takoje biazumoŭna pavinna było-b być zusim apolityčnym, nadpartyjnym i ahulnabiełaruskim, a hałoŭnaj metaj jaho pavinna być dapamoha biełaruskaj moładzi ŭzhadoŭvacca ŭ duchu nacyjanalnym na dobrych biełarusaŭ. Sprava stvareńnia T-va Pryjacielaŭ Bieł. Skaŭtaŭ jość spravaj vielmi pilnaj; tym bolš, što ŭžo arhanizujecca i žanočaja biełaruskaja skaŭckaja družyna, jakaja takža budzie patrabavać pomačy.

Dyk chto sapraŭdy žadaje dabra biełaruskaj moładzi, chto choča kab biełaruskija skaŭty byli arhanizacyjaj dla biełaruskaha adradženskaha ruchu karysnaj, toj pavinien staracca, kab skaŭty mieli dobruju apieku i padtrymańnie.

---

10.XI.35 Bieł. Skaŭty im. Fr. Bahuševiča mieli ładzić u zali Vil. Bieł. Himnazii viečarynu z nastupnaj prahramaj: 1. referat ab historyi skaŭtynhu na Biełarusi vuč. VIII kl. V. Katara, 2. sceničny abrazok na aktualnuju temu, 3. sceničny abrazok z žyćcia skaŭtaŭ ułožany — vuč. VIII kl. K. Paŭlim, 4. skaŭcki chor i 5. ahulnyja skoki. Viečaryna heta adnak nie adbyłasia z pryčyny zabarony školnych uładaŭ.

j. n.

## Z KRAJU

Pačynajučy ad hetaha numaru ŭznaŭlajem addzieł karespandencyjaŭ. Dziela hetaha prosim usich, chto tolki moža, supracoŭničać u im,—apisyvać koratka važniejšyja fakty z žyćcia biełaruskaje moładzi, jaje nastroi, patreby, dolu i niadolu i hetyja materjały prysyłać nam. — Red.

— U žniŭni m-cy sioleta vučni mužčynskaj Ziemlarobskaj Škoły ŭ **Bukiškach** adviedali žanočuju Zieml. Školu ŭ **Antovilu**. Škoły hetyja znachodziacca ŭ Vilenska-Trockim paviecie. Vučycca ŭ ich pieravažna biełaruskaja sialanskaja moładź nia tolki z hetaha pavietu, ale z całaha vilenskaha vajavodztva, a navat i inš. U hetych škołach biełaruskaja moładź, pad apiekaj polskich vučycialoŭ, pazbaŭlena mahčymaści łučnaści z biełaruščynaj, adnak siarod jaje panuje duch biełaruski i jon nie źmianiajecca, a navat vyjaŭlajecca na vonki. Dokazam hetaha byŭ viečar z biełaruskim źmiestam, jaki sarhanizavali vučanicy antovilskaj škoły ŭ časie, kali haściii ŭ ich vučni z bukišskaj škoły. U prahramie viečara byŭ: 1. sceničny abrazok z sialanskaha žyćcia, 2. inscenizacyja biełaruskich pieśniaŭ, 3) biełaruskija i polskija pieśni ŭ vykanańni choru i 4. narodnyja tancy (lavonicha, kandryl). Treba skazać, što sceničny abrazok byŭ tvoram vučanic. Usio było vykanana vielmi ŭdała i ŭzbudziła siarod moładzi jašče bolšuju luboŭ da rodnaha kraju i svaich biełaruskich zvyčajaŭ. Asabliva ŭsim padabalisia biełaruskija pieśni, jakija byli vykanany vielmi pryhoža, za što čeść i sława vučanicam antovilskaj škoły, *Prysutny.*

— v. **Puzyry**, Kryvickaj hm., Vialejskaha pav. 22 vieraśnia sioleta Zadubienski hurtok TBŠ ładziŭ u našaj vioscy spektakl-viečarynu. Stavili „Boty“ i „Žbiantežany Saŭka“. Artysty-amatary ihrali dobra Publiki było tak mnoha, što nie mahła źmiaścicca ŭ toj chacie, u jakoj było pradstaŭleńnie, i dziela hetaha ŭsie damahalisia, kab heta ž pradstaŭleńnie jašče raz paŭtaryć. Naładžańnie hetaha pradstaŭleńnia, a asabliva atrymańnia dazvołu na jaho z starastva, mnoha kaštavała enerhii zadubienskaj moładzi, ale ŭsiož-taki jana pastaviła na svajom. Dyk sława joj! *Puzyreŭski.*

— 21-ha vieraśnia sioleta ŭ v. **Padleśsie**, Lachavickaj hm., Baranavickaha pav., miascovaja biełaruskaja moładź, pry pamačy biełaruskich studentaŭ, ładziła biełaruskuju viečarynu. Spačatku adyhrany byli pjesy: „U zimovy viečar“ i „Piarestaja krasula“, a paśla adbylisia ahulnyja skoki. Pjesy byli adyhrany ŭdała i ŭsim prysutnym vielmi padabalisia. Ludziej było mnoha, tak, što viečaryna dała bolš 100 zł. zarabotku, jaki moładź pryznačyła na praciŭ pažarnickija pryłady. Pažadana, kab tam paŭstaŭ hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury! *Hość.*

---

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— Akademicki hod ŭžo pačaŭsia. U Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni źjaŭlajucca novyja ludzi, — dahetul časta zusim nikomu z vilenskich biełarusaŭ nie znajomyja — absolventy polskich himnazijaŭ u našym kraju. Biełaruskaja studenckaja hramada raście i serca radujecca. Škada adnak, što ŭ hetu hramadu daloka nia ŭsie trapili sioletnija absolventy Vil. Bieł. Himnazii. Adnych z ich ciažkaje matarjalnaje pałažeńnie zmusiła astacca doma, a druhija, choć i dastalisia na vyšejšuju škołu, to adnak dziela roznych materjalnych miarkavańniaŭ badziajucca pa śliskich ściežkach, chavajučysia ad svaje biełaruskaje arhanizacyi. Sumnaje heta źjavišča tłumačyć treba tym, što bieł. vioska zusim abiadnieła, dy što ŭ Vil. Bieł. Himnazii zamała kładziecca ŭvahi na nacyjanalnaje ŭzhadavańnie.

— 12.X. BSS ładziŭ inaŭhuracyjny viečar, u časie jakoha vystupaŭ z pramovaj staršynia BSS M. Ščors, a stud. P. Zasim pračytaŭ referat na temu „Biełaruski student i vioska". Uražańni z viečara, u sensie hramadzka biełaruskim, dobryja.

— 27.X. stud. Kazak pračytaŭ u BSS referat ab historyi bieł. himnazii ŭ Klecku, jakuju polskija ŭłady źlikvidavali.

10.XI. u BSS adbyłasia dyskusija nad źmiestam № 1 „Studenckaj Dumki" ab jakim my pisali ŭ № 8-9 „Šl. Moł.". Bolšaść pramoŭcaŭ vyskazałasia ab im adjemna.

— Sioleta prypadajuć XV-ja ŭhodki isnavańnia BSS. Z hetaj pryčy ŭrad BSS maje naładzić śviatkavalnuju akademiju.

— 20.X. u navukovym studenckim T-vie Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry USB dr. J. Stankievič pračytaŭ referat na temu: „Norveski vučony Ch. Stang ab movie Vial. Kn. Litoŭskaha".

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*М. Машара* **На прадвесьні** — зборнік вершаў. Вільня 1935. Выд. Ст. Глякоўскага і Яз. Найдзюка. 96 Бач. Фар. 8⁰. У мастацка сымболічнай вокладцы П. Сяргіевіча. Цана 1 зл.

Зборнік абыймае шэсьць разьдзелаў, пераважна дробных вершаў поэты, напісаных ім у большасьці за апошнія два гады. Часьць іх друкавалася ў часапісе „Калосьсе" і друкарскі набор іх быў выкарыстаны для зборніка.

Вершы ў зборніку, як і агулам уся літаратурная творчасьць Машары, насычаны высокім ідэёвым зьместам. Матывы беларускага нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня, матыў соцыяльны ідуць побач з сабой і пераплятаюцца, і разам з глыбокім патрыётызмам, умілаваньнем Бацькаўшчыны і свайго народу, і верай у лепшую будучыню гэтага народу, — ствараюць ідэёвую іх аснову.

Машара тыповы лірык, як і большасьць нашых поэтаў. Лірыка — гэта аснаўны творчы жанр Машары, і трэба жадаць развою ў гэтым кірунку яго таленту.

З пасярод вершаў, зьмешчаных у зборніку „На прадвесьні", некаторыя вершы І і ІІ-га разьдзелу вызначаюцца вялікай сілай, дынамікай, — яны хвалююць, парываюць чытача, спараджаюць у ім эмоцыянальную настраёвасьць; поэт асягае імі мэту — побач з эстэтычным пачуцьцём чытач перажывае ідэёвыя эмоцыі. У гэтым іхняя і мастацкасьць, артызм.

У III разьдзеле — зьмешчана кароткая поэмка „Русалкі"; ёсьць яна запраўды дасканальнай як з гледзішча сюжэту, композыцыі, так і з гледзішча вершаваньня.

Пэрсонажы поэмкі — Русалкі — з увагі на паходжаньне соцыяльнае, выдаюцца як бы запазычанымі ў Купалы: русалкі Машаравы гэта-ж родныя сёстры Купалавых з поэмы „Сон на кургане"!

Рэшта разьдзелаў — IV і V, апроч VI-га, (які зьмяшчае тры вершы прысьвячаныя гораду) — абыймаюць дробныя вершы, у якіх поэт малюе вясковую беларускую прыроду, ейнае хараство, не пазбаўленыя так-жа і матываў грамадзкіх. Некаторыя з гэтых вершаў слаба апрацаваны з тэхнічнага боку, — дзеля чаго, міма іх сьвежасьці, шчырасьці і радаснай узьнятасьці, не даюць артыстычных эфэктаў, ня ёсьць музыкальнымі. Да заган вершаў Машары, агулам, трэба залічыць нечысьціню бел. мовы.

Машара ўжо стаўся адным з перадавых поэтаў Заход. Беларусі. Калі папрацуе над сабой, калі застасуецца да вымаганьняў тэорыі літаратуры, у асобнасьці да законаў вершаваньня, калі здабудзе культуру верша і мовы, — Машара можа даць запраўды шэдэўры беларускага прыгожага пісьменства. А ўжо ён на добрай дарозе.

Бяда аднак, галоўна, у тым, што цяжкія ўмовы жыцьця Машары перашкаджаюць яму працаваць на літаратурнай ніве. Сёлета прышлося мне бачыць агрубелыя і спухшыя ад працы фізычнай (рваў лён) рукі поэты...

Дзеля здаровага, моральнага і ідэовага зьместу літаратурнай творчасьці Машары, дзеля ейнага бадзёрага, жыцьцярадаснага, оптымістычнага тону, трэба, каб уся друкаваная творчасьць Машары знайшла пашырэньне ў беларускім народзе, асабліва сярод бел. моладзі. **Я. Ш.**

**„Калосьсе"** — літаратурна-навуковы часапіс — кніжка 3. Вільня 1935 г. Бач. 48 фар. 8⁰ у мастацкай вокладцы. Выходзіць раз у 3 месяцы. Выд. Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. Цана 1 зл. Падпіска на год 4 зл. Адрас Рэд.: Вільня, Завальная 1.

У кніжцы гэтай зьмешчана шмат вершаў М. Машары, Хв. Ільляшэвіча, А. Бярозкі, У. Дубоўкі, апавяданьне бел. савецкага пісьменьніка С. Баранавых, артыкулы: Ст. Станкевіча, В. Гадлеўскага, Ул. Талочкі, др. Ст. Грынкевіча; цікавыя аддзелы: кнігапіс і хроніка. Агулам зьмест 3-й кніжкі „Калосься" багаты і паважны, як і папярэдніх кніжак.

## ХРОНІКА

### З беларускага жыцьця

**Апошнія весткі з беларускага рэлігійнага жыцьця.** — Віленскі Праваслаўны Архіяпіскап Хвядос дня 7.X.1935 г. выдаў загад, каб навучаньне рэлігіі праваслаўных дзяцей у школах у Віленскай эпархіі адбывалася пабеларуску. У гэтым жа м-цы кастрычніку Віленская Прав. Кансысторыя прыняла пастанозу, каб казаньні ў цэрквах гаварылі сьвяшчэньнікі пабеларуску. — Як загад архіяпіскапа, так і пастанова Консысторыі выклікалі сярод беларускага грамадзянства прыхільны водгалас і прычынілася да аслабленьня варожых настрояў беларусаў да царкоўных уладаў. Мала аднак добрага загаду і пастановы; трэба, каб яны былі ажыцьцёўлены, а так-жа, каб далейшыя дамаганьні беларускага народу ў справе беларусізацыі царквы былі споўнены. І то ня тольні ў Віленскай эпархіі, але і ў іншых, абыймаючых беларускія землі; бо тады толькі наступяць нармальныя адносіны між Царквой і народам і тады Царква магчыме спаўняць належна сваю ролю.

— У другой палове кастрычніка сёл. ўлады Віленскае Каталіцкае Духоўнае Сэмінарыі выдалілі з Сэмінарыі клерыка—беларуса В. Папуцэвіча, які вучыўся добра, хацеў сапраўды быць ксяндзом і ніякіх праступкаў за сабой ня чуе. Сэмінарыйныя ўлады, выдаляючы яго, не падалі ніякіх матываў; цьвердзяць толькі, што В. П. „niema powołania do stanu duchownego", радзяць пры тым каб ён перавёўся ў якую-небудзь сэмінарыю ў цэнтры Польшчы. Гэта, бязумоўна, ясна гаворыць аб тым, чаму В. Папуцэвічу — сьведамаму беларусу няма месца ў Віл. Сэмінарыі. І дзеля гэтага паступак сэм уладаў выклікаў сярод беларусаў глыбокае абурэньне. Характэрна пры тым, што № 40 „Беларускай Крыніцы", ў якім быў пасьвячаны гэтай справе цэлы артыкул п. н. „Рым далёка — Бог высока...", адміністрацыйныя ўлады сканфіскавал .А знача аб такіх рэчах дык і пісаць небясьпечна...

**Суды.** — 11.X. сёл. Віл. Гарадзкі Суд разглядаў справу рэдактара «Шляху Моладзі» грам. Я. Найдзюка, абвінавачанага з 23 і 170 арт. К. К. за надрукаваньне ў № 4 „Ш.М." артыкулу А. Стрыбуця „Да сонца". Суд, ня гледзячы на энэргічную абарону абвінавачанага і на ягоныя доказы цяжкога палажэньня беларусаў, апісанага ў сканфіскаваным артыкуле, засудзіў грам. Найдзюка на 2 тыдні арышту і 50 зл. штрафу. Засуджаны падаў апэляцыю.

— 22.X. сёл. Віл. Гарадз. Суд засудзіў бел. паэта Фр. Грышкевіча і ведамага бел. спартоўца Ю. Кепеля, даючы кожнаму па месяцу арышту і 100 зл. штрафу. Абвінавачаныя яны былі за выданьне час. „Крыгалом", якога № 1 выйшаў на пачатку сёлетняга году і быў сканфіскаваны Віл. Гарадз. Стараствам. Засуджаныя падалі апэляцыю.

— Вызначаны ў Віл. Акр. Судзе на 22.X.1935 разгляд справы ведамых бел. ксяндзоў, В. Гадлеўскага і Я. Семашкевіча, не адбыўся з прычыры хваробы кс. Я. Семашкевіча. Абвінавачаны яны за выданьне зборніка вершаў „На Рокусі".

**Пашырэньне Рэд. Калегіі „Шляху Моладзі".** 18.X.35 Рэд. Калегія „Ш. М." пашырылася і цяпер уваходзяць у яе 9 асоб.

**У справе літаратурнага конкурсу „Шляху Моладзі".** Рэдакцыя „Шляху Моладзі" паведамляе, што вынікі конкурсу будуць паданы пазьней.

**Беларускі радыё-канцэрт,** аб якім было падана ў № 84 „Шл. М." адбудзецца 21 г. м. ад гадз. 16 мін. 45 да гадз. 17.

**Рэфэрат у Віл. Аддзеле БІГіК.** 24.XI. сёл. Віленскі Аддзел Бел. Інстытуту Гасп. і Культ. ладзіць рэфэрат на тэму. „Хто мы і дзе наша Бацькаўшчына", які прачытае др. Я. Малецкі. Пачатак рэфэрату а гадз. 17. Уваход вольны для ўсіх.

**Новыя беларускія дахтары** Сёлета восеньню кончылі мэдычны факультэт віл. унівэрсытэту і атрымалі дыплёмы лекараў: сябра Рэд. Калегіі „Шл. Мол." Я. Малецкі і Ф. Леўша. Жадаем ім усяго найлепшага ў далейшым жыцьці і плоднае працы на беларускай ніве.

**На „Задушкі".** Сёлета 2 XI, у дзень каталіцкіх „Задушкаў" віленскія беларусы, асабліва моладзь, за прыкладам мінулых гадоў, адведвалі на „Росах" магілкі беларускіх паэтаў К. Сваяка і Ядвігіна Ш.; пры гэтым бел. касьцельны хор сьпяваў бел. рэлігійныя песьні.

**Лекцыя ў БІГіК.** 11..X.35 у залі Бел. Інстытуту Г. і Культ. ў Вільні грам. М. Пяцюкевіч прачытаў рэфэрат на тэму. „Беларуская мэлёграфія".

**БХД і камуністы.** КПЗБ у м-цы жніўні сёлета зьвярнулася да БХД з прапановай аб супрацоўніцтве і ўтварэньні супольнага супроцьфашыстаўскага фронту. Вось-жа Прэзыдыюм Цэнтр. К-ту Бел. Хрысьціянскай Дэмакрацыі, на сваім паседжаньні 25.IX 35 прапанову гэту адкінуў і выдаў аб гэтым вялікі камунікат, надрукаваны ў № 37 „Бел. Крыніцы".

**Атлас БССР.** Інстытут эканомікі прыступіў да ўкладаньня вялікага аласу БССР з 135 карт, на якіх будзе паказаны стан і рост прамысловасяці, сельскай гаспадаркі, электрыфікацыі, жывёлагадоўлі Савецкай Беларусі, а таксама яе прыродныя багацтвы. Гатовых ёсьць ужо 48 карт.

**Беларусаў у Латвіі** апошні сёлетні перапіс насельніцтва, праведзены латвійскімі фашыстаўскімі ўладамі налічвае 26,867 асоб. Ясна, што лічба гэта далёкая ад сапраўднай, бо-ж Беларусаў у Латвіі ёсьць куды больш і паводле падлічэньняў грам. К. Езавітава лік іх у 1927 г. павінен выражацца ня менш 170,000 чалавек. Латышом гэта ня выгадна і дзеля таго перапіс іхны налічае беларусаў так мала.

*Рэдацуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

## USIAČYNA

— Na pačatku m-ca kastryčnika adbylisia pieršyja pasiedžańnie **polskaha Sojmu · Senatu**, na jakich na maršałka Sojmu vybrany pas. Car, a na marš. Senatu—sen. Prystar.—12.X. Urad Słaŭka padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad utvaryŭ pałk. M. Zyndram-Kaściałkoŭski, jaki maje praviaści cely rad źmienaŭ u ekanamičnym žyćci i atrymaŭ užo na heta poŭnamoctva ad Sojmu i Senatu. Źmieny adnak hetyja nie varožać zdajecca ničoha dobraha.

— **Vajna italijanska-abisynskaja** uściaž razharajecca. Italijancy dalej zajmajuć abisynskija abšary, z jakich dabravolna adstupajuć abisyncy, adkładajučy rašučy boj na paśla. Niaraz užo adnak abisyncy pakazal i, jak možna patrapić baranić svaju baćkaŭščynu, nia hledziačy na toje, što vojska Italii daloka lepš azbrojena. Liha Narodaŭ pryznała vinoŭnicaj raspačaćcia vajny Italiju i pastanaviła zastasavać adnosna hetaj dziaržavy ekanamičnyja sankcyi, jakija majuć być uviedzieny ŭ žyćcio 18 listapada.

— U miesiacy listapadzie sioleta prypadajuć 25-ja ŭhodki śmierci vialikaha rasiejskaha piśmieńnika i filozofa **Lva Tałstoha**. Jaho litaraturnyja tvory: „Vajna i mir,“ „Anna Karenina,“ „Uskrasieńnie“ pierałožany badaj na ŭsie eŭrapejskija jazyki. Pabiełarusku vydany dahetul jašče tolki pryhožyja jahonyja bajki, apaviadańni i raskazy z pryrody „Dla dziaciej,“ knižyca „Ad čaho na śviecie zło,“ „Ci šmat čałavieku treba ziamli“ i druhija apaviadańni.

— **Usich radyjova-adbirajučych aparataŭ** naličaje mižnarodnaje radyjovaje biuro 48,300,000, z jakich 20,750,000 jość u Zł. Št. Paŭnočnaj Ameryki, 6,780,000 u Anhlii i Danii, a rešta prypadaje na inšyja dziaržavy.

— **Złuč. Št. Paŭnočn. Ameryki**, pavodle ichniaje ŭradavaje statystyki, majuć 12,000 samalotaŭ z 18,000 latunami, u hetym liku jość 2,900 vajskovych samalotaŭ z 4,400 latunami.

— **U praciahu 1 minuty** ziamnaja kula prabyvaje 1740 klm., rodzicca na śviet 60 dziaciej, umiraje bolš 30 asob, pradukujecca kala 250 tonn pšanicy, 90 tonn žyta i 80 jačmieniu. Z usich kapalniaŭ dastajuć 2500 tonn vuhla, kala 340 tonn rudy, kala 370 tonn nafcianoj ciečy.

— **480 kilametraŭ** prajechaŭ suśvietnaj slavy aŭtomabilist Campbell na svaim aŭtamabili „Niabieskaja ptuška“ ŭ praciahu adnaje hadziny, bjučy hetym samym rekord skoraści jazdy na ziamli.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Аўтору „Новага неба“. Творы Вашы слабаватыя, але Вы пісаць можаце і пяра ня кідайце. Як пазволіць месца, дык што-небудзь надрукуем. За добрыя словы дзякуем. Пішэце выразна сваё прозьвішча і адрас.

А. Мілюцю: Адказ і некалькі бел. кніжак выслалі Вам праз грам. Моката.

К. За матар'ялы дзякуем, у меру магчымасьці будзем карыстаць, падробны адказ у пісьме.

В. Рэ—ву. Апавяданьне атрымалі, нішто-сабе, будзем старацца надрукаваць. Просім пісаць. За прывітаньне падзяка. Жадаем Вам усяго найлепшага.

Н. Кішко: Усе газэты высылаюцца Вам акуратна. Калі Вы іх не атрымліваеце, напішыце нам афіцыяльную рэклямацыю, якіх нумароў не атрымалі, а мы падамо ў Пашт. Дырэкцыю скаргу на „Вашу“ пошту Козяны. Перасылка рэклямацыі бясплатная.

Грышы, Зосьцы, Наташы, Пpануку і камп. у Вільні: дзівімся моцна, што на столькі наіўныя людзі жывуць у Вільні.

Чарнабылю: Матар'ялы атрымалі, пісьмо перадалі. Проза у Вас выходзіць лепш, вершы слаба. Будзем старацца выкарыстаць.

А. А—ку: „Шл. Мол.“ выслалі, раней гэтага не рабілі, бо Вы самі пісалі, што адтуль хутка выедзеце.

Puzyreŭskamu: Dziakujem, prosim pisać, prośbu spaŭniajem.

Uł. Haravomu: Vierš słabavacieńki i nia projdzie praz cenzuru. Proza Vam udajecca lepš. Piara nia kidajcie. Pryvitańnie!

L. Burałomu: Vieršy atrymali, dziakujem, budziem drukavać.

# KUTOK RAZRYVAK

Pad redakcyjaj U.Paŭlukoŭskaha

## Разьвязаньні з № 10 (83).

**Лёгогрыф № 1:** кОт, кІт, кАт, кУт.

Правільна разьвязаў Т. Гутор.

**Задачы:** № 1 — дзень нарадзін і дзень сьмерці;
№ 2 — у лютым бо мае 28 дзён.

Прав. разьв. толькі задачу № 2 Т. Гутор.

**Як гэта зрабіць:**




Няроўнасьць лініяў паказвае рысунак.

УВАГА: Пры разьвязваньні арытмэтычнай задачы, а так-жа няроўнасьці лініяў лепш паслугоўвацца сернікамі — гэта больш наглядна і цікаўна.

Прав. разьв. Т. Гутор.

**Арытмэтычная задача:**

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1 7 1<br>7 ▬ 7<br>1 7 1 | 2 5 2<br>5 ▬ 5<br>2 5 2 | 3 3 3<br>3 ▬ 3<br>3 3 3 | 4 1 4<br>1 ▬ 1<br>4 1 4 |

1: парадак, як зложылі мяшкі сяляне 2, 3 і 4: парадак, як раскладаў мяшкі мельнік пасьля І-й (2), ІІ-й (3) і ІІІ (4) кражы.

Прав. разьв. Гіляры Аляксеявіч.

Дзеля таго, што ніхто ўсіх задач не разьвязаў, дык і нагарода нікому ня можа быць прызнана.